© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 40 (726) 19 КАСТРЫЧНІКА 2005 г.

## Ёсць права маліцца па-беларуску

Пытанне выкарыстання дзяржаўных моваў канфесіямі абмяркоўвалася на пасяджэнні калегіі Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў пры Савеце міністраў, што прайшло ў Менску 11 кастрычніка.

У інтэрв'ю БелаПАН начальнік аддзела па справах рэлігій камітэта Аляксандр Калінаў паведаміў, што ўпершыню пытанне аб пашырэнні сферы прымянення дзяржаўных моваў рэлігійнымі арганізацыямі разглядалася калегіяй камітэта ў 2000 годзе. "За мінулы перыяд рымска-каталіцкая царква выдала зборнік набажэнстваў "Імшал" на беларускай мове, зроблены поўны пераклад на беларускую мову працэсу навучання ў Гарадзенскай рымска-каталіцкай семінарыі", — зазначыў А.Калінаў.

Паводле яго слоў, падчас перарэгістарцыі рэлігійных арганізацый у 2002—2004 гадах на дзяржаўныя мовы перакладзены бланкі, лісты, пячаткі, узоры дакументацыі, аб'явы, шыльды і памятныя знакі, што тычацца дзейнасці канфесій. "Набажэнства праводзіцца на кананічных мовах — іўрыце і рускай — у іудзейскіх абшчынах, арабскай і рускай —у мусульманскіх рэлігійных арганізацыях, стараславянскай і рускай — у Беларускім экзархаце Рускай праваслаўнай царквы, беларускай і польскай — у рымска-каталіцкай царкве. **Згодна з заканадаўствам, вернікі маюць права на веравызнанне на роднай мове.** Таму па просьбах прыхаджан у касцёлах вывешаны графікі правядзення набажэнстваў на беларускай і польскай мовах. Аднак у некаторых парафіях Гарадзенскай епархіі рымска-каталіцкага касцёла падобныя графікі часам адсутнічаюць, у справаводстве і дзейнасці нядзельных школ патрабуецца карэкцыя па іх пераводу на беларускую мову", — сказаў А. Калінаў.

Паводле яго слоў, рашэнне калегіі скіравана на пашырэнне сферы выкарыстання дзяржаўных моваў у дзейнасці канфесій. "Калегія рэкамендавала рай- і гарвыканкамам, рэлігійным арганізацыям звярнуць увагу на пашырэнне сферы прымянення дзяржаўных моваў у набажэнстве і выкананне заканадаўства аб забеспячэнні правоў вернікаў на сумеснае веравызнанне на роднай мове", — зазначыў А.Калінаў.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## Справаздачна-выбарчая канферэнцыя Лідскай арганізацыі ТБМ



16 кастрычніка ў Лідскім гарадскім доме культуры прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Лідскай (раённай) арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны". На канферэнцыі прысутнічалі 22 дэлегаты ад 23 суполак ТБМ. Прысутнічалі карэспандэнты "Нашага слова", "Гродзенскай праўды" і "Радыё Свабода", а таксама госці.

Канферэнцыя заслухала справаздачны даклад старшыні Лідскай рады Лявона Анацкі і сябра Рэвізійнай камісіі Уладзіміра Саевіча.

Канферэнцыя абрала старшынём Лідскай (раённай) арганізацыі ТБМ Лявона Анацку. Канферэнцыя абрала Раду ў складзе пяці чалавек і Рэвізійную камісію ў складзе трох чалавек. Канферэнцыя абрала трох дэлегатаў на чарговы з'езд ТБМ, які адбудзецца ў Менску 30-га кастрычніка.



Пасля заканчэння канферэнцыі група дэлегатаў усклала кветкі да помніка Францішку Скарыну.

*Наш кар.*



**На здымках:** 1. Дакладвае Лявон Анацка, 2. Слова мае настаўніца беларускай мовы Ганчарскай СШ Васіліса Пазнухова, 3. Падчас ускладання кветак да помніка Ф. Скарыну.

## 120 гадоў з дня народзінаў Алеся Бурбіса



Лёс наканаваў Аляксандру Лаўрэнавічу Бурбісу вельмі кароткае жыццё — усяго 37 гадоў. Але за гэты час ён змог рэалізаваць сябе рознабакова і ярка: як палымяны рэвалюцыянер, палітык, дасведчаны навуковец-эканаміст, гісторык і этнограф, тэатральны і грамадскі дзеяч.

А. Бурбіс нарадзіўся ў Вільні. Рэвалюцыйная праца захапіла яго з маладых гадоў. У 1902 годзе яшчэ будучы гімназістам ён становіцца заснавальнікам віленскай філіі Беларускай рэвалюцыйнай грамады — першай беларускай сацыялістычнай партыі. Калі ў 1903 годзе адбыўся з'езд партыі і яе перайменавалі ў Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ), Алесь Бурбіс увайшоў у склад яе цэнтральнага камітэта. Ён рашуча і паслядоўна прапагандаваў сялянам ідэі Грамады.

У 1906 годзе за актыўную рэвалюцыйную дзейнасць ён быў арыштаваны і зняволены на 3 гады. Пасля вызвалення паехаў у Вільню, дзе пачаў супрацоўнічаць з "Нашай нівай", а таксама захапіўся тэатральнай справай. Яшчэ ў 1906 годзе ў Пятроўшчыне (пад Менскам) Бурбіс паставіў спектакль "Па рэвізіі" М. Крапіўніцкага. У Вільні яго мары аб стварэнні беларускага прафесійнага тэатра здзейсніліся. Пад яго кіраўніцтвам ладзіліся тэатральныя вечарыны, якія пашыралі цікаўнасць да беларускай культуры.

Як рэжысёр, акцёр і дэкламатар ён удзельнічаў у рабоце Першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага і Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільні. У 1915-ым паставіў апярэту «Залёты» паводле аднайменнай камедыі В.Дуніна-Марцінкевіча.

У 1915 годзе, пасля захопу немцамі Заходняй Беларусі, Бурбіс пераязджае ў Маскву, дзе яго застае лютаўская рэвалюцыя. Тут стварае маскоўскую арганізацыю БСГ, якая абрала яго старшынём. Па-ранейшаму захоплены сацыялістычнымі ідэямі, ён наладжвае сходы, піша адозвы, палка прамаўляе на мітынгах. У 1917 годзе Алесь Бурбіс узначаліў Маскоўскую арганізацыю БСГ. А. Бурбіс ад Маскоўскай арганізацыі БСГ прыняў удзел у 1-м Усебеларускім кангрэсе 1917 года і ўвайшоў у склад Рады Ўсебеларускага з'езду.

24-25 сакавіка 1918 года Алесь Бурбіс удзельнічаў у гістарычным пасяджэнні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (утворана з Рады Ўсебеларускага з'езду 18 сакавіка 1918 г.), на якім была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, і быў абраны ў склад Народнага сакратарыяту БНР. Як народны сакратар БНР і кіраўнік Маскоўскай арганізацыі БСГ Алесь Бурбіс быў прызначаны консулам БНР у Маскве, дабіваўся прызнання бальшавікамі незалежнасці БНР.

А. Бурбіс успрыняў утварэне БССР, як перамогу ідэі незалежнасці Беларусі. Сочачы за развіццём рэвалюцыйнага руху на Беларусі, Бурбіс дасканала вывучыў праблемы нацыянальнага пытання, якія адлюстраваў у сваім артыкуле "Кароткі агляд беларускага нацыянальна-рэвалюцыйнага руху" (1921), выдаў грунтоўнае даследаванне па эканоміцы краіны.

Апошнія гады жыцця Бурбіса былі надзвычай насычаны працай. Ён горача бярэцца за адбудову Савецкай Беларусі — працуе ў Наркамземе, удзельнічае ў падрыхтоўцы Рыжскай мірнага дамовы 1921 г., становіцца адным з арганізатараў і членаў Чырвонага Крыжа БССР, уступае ў Кампартыю, працуе намеснікам наркама замежных спраў БССР.

Смерць ад сухотаў абарвала жыццё гэтага энергічнага, няўрымслівага чалавека ў 1922 годзе. Яго сучаснік Цішка Гартны пісаў у памінальным артыкуле: "Алесь Бурбіс быў адной з першых іскарак цяпер ўжо палымнеючага кіпучага агню беларускага адраджэння... Колькі ж трэба матэрыялу, каб у агні палаць і агнём асвечваць займаючыйся золак? І іскра, радзіўшая многа спадобных сабе ... завіхраваўшая лаву агняпышачай гары беларускай культуры, перагарэла, пакінуўшы бляск, цяпло і зыркасць..."

*Паводле Т. Кекелевай.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Беларусы, яднайцеся!

## З выступу на IУ з'ездзе беларусаў свету "Бацькаўшчына"

У вас усіх крыніцовіць у душы боль за Беларусь, справы ў ёй. Наш з'езд заканчваецца, часу мне старшыня цяперашняга пасляабеднага пасяджэння Генадзь Мікалаевіч Бураўкін наўрад ці дабавіць, таму буду гаварыць эскізна, у назыўным плане, а вы, мудрыя людзі, самі дамысліце астатняе: сказанае наўпрост і сказанае ў паміжрадкоўі.

Нам усім патрэбна дзякаваць людзям з адміністрацыі прэзідэнта, Ураду, нацыянальнага банка за тое, што ясна, поўнасцю ўсвядомілі аб'ектыўны закон развіцця грамадстваў: аб'яднанне грошай неакрэплай дзяржавы з дзяржавай з 300-гадовай гісторыяй, у пятнаццаць разоў мацнейшай – гэта смерць дзяржавы меншай, аб'яднанне такіх дзяржаў у федэрацыю, канфедэрацыю, саюз роўных... – гэта смерць беларускай нацыі. Не адразу, але 150-мільённая маса пракаўне, растворыць дзесяць мільёнаў. Асабліва, калі ўлічыць суседства, блізкасць моваў, нераздзельнасць эканамічную.

Згіне мова – згіне народ, прападзе збіранае сотнямі пакаленняў беларусаў, ліцьвінаў, крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў.

Здаць грошы, беларускую мову, а значыць, дзяржаву, продкаў – вялікі грэх. Вялізарны. З тых, якія значыць Наймагутны, Найдобры, Усебачны, значаць Космас і Астрал. Такі грэх падае не толькі на рашальнікаў, падпісчыкаў, дарадчыкаў рашальнікаў. Такі грэх падае на іхні род, вынішчае падчыстую.

Хітрамондры Ягайла паслухаў каталіцкіх біскупаў і маладую жонку, знішчыў векавечнае тысячагадовае святое капішча ў Вільні, адно з найвялікіх крывіцкіх капішчаў. Пасягнуў на волю, радасць і слёзы продкаў, дзядоў-прадзедаў. Не перанёс –знішчыў.

Вялікі Ягайла вынішчыў сябе і род. У сямідзесяцігадовага з'явілася трое сыноў. Па заявах вялікага Вітаўта гэта былі не яго сыны; гэтыя заявы разбіраліся на самых прэстыжных Радах дзяржавы і ў катавальнях. Не пацвердзіліся заявы Вітаўта. Пацвердзілася іншае, святарска-язычніцкае. Ад абодвух Ягайлавых сыноў у планетарна-фізічным плане нічога не засталося, а значыць і ад вялікага беларуса – Ягайлы.

Цар Расійскай імперыі паслухаў дарадчыкаў з доктарскімі ступенямі і генеральскімі пагонамі – перанёс, скрануў з месца святарскі язычніцкі камень, вакол якога фактычна будавалася Масква. За дзвесце метраў ад Крамля ляжаў, псаваў выгляд; мы – цывілізаваны народ і краіна, першабытная паганская (для многіх хрысціян з крыжамі і без крыжоў язычніцтва – толькі паганства, хаця самі на ім стаяць) тмутаракань не для нас, не для Расеі.

Вынік вядомы дзетсадаўцам. Гемафілікі не выканалі свае наканаванне, згінулі падчыстую, але пацягнулі за сабою ў час першай сусветнай і грамадзянскай амаль дваццаць мільёнаў суайчыннікаў.

Талібы ў Афганістане знішчылі тысячагадовыя будысцкія статуі. Мы – мусульманы, статуі старабытнасці нас шакіруюць, ганьбяць нашу высокую веру. Ангельцы давалі вялізрныя грошы за статуі. Не, толькі знішчыць, не трэба, каб нашу ганьбу бачылі іншыя.

Расстралялі з гарматаў. Вынік вядомы, вынішчылі створаны імі лад, дзяржаву, сябе.

Тысячы прыкладаў, калі камісары ў грамадзянскую і айчынную знішчалі неўпадабаныя сем'і суплеменнікаў, ідэалагічна-рэлігійных непрыяцеляў, а вынішчылі род. Нічога ад саміх не засталося, наўпрост або ў другім-трэцім пакаленнях.

Такім чынам, добра, што беларускія ўрадоўцы разумеюць, сэрцам чуюць не толькі грэх асабісты, а і нацыянальны, дзяржаўны. Космасу і Тагасвеццю не скажаш: "Не мог, не здолеў. Я маленькі чалавек. Спадзяваўся на волю і розум іншых, я баяўся, адсутнічаў...". На першым перакрыжаванні ацэнка чалавеку найперш не за дабро і нязло.

Мне не зразумела, як ідзе выхаванне патрыятызму ў беларускай моладзі сталых людзей. Міністэрствы адукацыі, культуры, медыцыны, эканомікі, прамысловасці, сельскагаспадарчае... у нас на Беларусі як бы прышлы-прысцябай да патрыятычнай тэматыкі.

Папрасіце беларускага школьніка сярэдніх і старэйшых класаў назваць дзесяць, усяго дзесяць славутых землякоў. Назавуць адзінкі, і тое будуць плесці пра апошнюю вайну, партызанства, савецкіх герояў працы. Нібыта Беларусі ўсяго шэсцьдзесят гадоў.

Папытайце ў выпускніка ВНУ, каледжа назваць дзесяць, усяго дзесяць лепшых беларусаў у тваёй галіне; назаві знаных на ўвесь свет у тваёй спецыяльнасці беларусаў, а калі не на ўвесь свет, то ў сваёй дзяржаве. Не назаве.

Паспрабуйце ў міністэрскіх і гарвыканкамаўскіх старанных і надта старанных, пасадных і непасадных супрацоўнікаў спытаць, хто вядомыя на ўвесь свет беларусы. Дзесяць чалавек. Усяго дзесяць. Назавуць адзінкі. Ды і тое, як школьнікі і студэнты, з нядаўняга мінулага, з гуманітарных шэрагаў.

Міністэрскія завіханцы, якіх часта і неспрвядліва ганяць самы апошні пень і цемра, сваё няведанне дзесяці лепшых беларусаў у галіне апраўдваюць чым хочаш. Няма партрэтаў у міністэрстве. Не засяроджана ўвага чытача ў навучальнай праграме. Ім ніхто не падказаў прапагандаваць лепшых у сваёй галіне... А найбольш вострыя адразу зварочваюць на звычнае: гэта беларускі нацыяналізм, прапагандаваць такое не патрэбна.

А рускіх і англійскіх, польскіх і нямецкіх славутых можна прапагандаваць? Адных іх?

Адказу няма. Міністэрскія дарэкі (не кажу, недарэкі) спасылаюцца на недахоп часу, занятасць...

Амаль тая ж карусель у бацькаўшчынцаў і аматараў беларускай мовы.

Любасць да зямлі беларускай і мовы беларускай, браткі, гэта не адно ўздыхі, усхліпы ці крыкі. Працаваць болей трэба. Кожнаму. На любым месцы.

Запланаваную да абмеркавання рэзалюцыю (адозву) пра беларускую мову паўнасцю адабраю.

Нехта разумны казуістычна і таленавіта закручвае на зямлі беларускай антыбеларускія гайкі. Вяжа двудушнік такія вузлы, якія народ будзе пасля доўга развязваць.

У перайменаванні двух праспектаў нейкая логіка ёсць. А якая логікаў назве "Беларускі нацыянальны дзяржаўны тэхнічны універсітэт"? Былы БПІ.

Тут што – вучацца адны беларусы? Не. Працуюць толькі беларусы? Не. Выкладаюць усе прадметы па-беларуску? Не.

Дык чаму нацыянальны? А ў Магілёве, Гародні, Віцебску, Берасці, Гомелі ВНУ не нацыянальныя? Не беларускія?

Каго мы ўзвышаем, не ведаю, а што астатнія ВНУ краіны, дзяржаўныя і недзяржаўныя, прыніжаем, дык гэта дакладна. Дзяржава прыніжае самую сябе.

У сталіцы Беларусі ёсць Рускі драматычны тэатр. Будзе з гадамі польскі, габрэйскі. А беларускага тэатра гадоў колькі ўжо нямашака. Пад шумок абароны беларускасці Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы стаў Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы.

Хто ведае вялікіх народных паэтаў Украіны, Таджыкістана, Літвы, Казахстана, Татарстана? Я таксама не ведаю. У Францыі, Бельгіі, Германіі наведнікі тэатраў таксама не ведаюць нашага песняра Купалу. І не абавязаны ведаць. Змена назвы Беларускі на Нацыянальны падсекла не геніяльнага паэта і бядотніка Янку, а лепшы драматычны тэатр дзяржавы. Знізіла яго рэнамэ.

Назвы павінны быць лаканічнымі, скарачацца да немагчымага. Было Акадэмія Навук Беларусі, стала Нацыянальная Акадэмія Навук Рэспублікі Беларусь. У чым патаінны сэнс і логіка дадатка слова Нацыянальная, не зразумею да сённяшняга дня. У каго з акадэмічных супрацоўнікаў ці акадэмікаў не спытаю, адказ той жа. Не разумеюць. Праўда дасціпныя акадэмікі часам іранізуюць: такія змены, каб народу і такім дапытнікам, як вы, была відна і наша цемрасць.

Вялікія адмыслоўцы і старанннікі з Менскага метрапалітэна прыдумалі надзвычайны патрыятычны ход. Замрыце гумарысты свету, вам да такога ніколі не датумкацца!

Праз шмат гадоў пасля эксплуатацыі метрапалітэна і паўсядзённай аб'явы нармальнай назвы выявілі нестыкоўку ў назве станцыі. Замест звычайнага канцэлярыту, дзелавога звароту ў гарвыканкам, усталявання разам з ім ісціны і праўды яны гадамі званую назву станцыі Плошча Незалежнасці перамянілі на Плошчу Леніна.

Плошчы няма, зараз праспект Незалежнасці з'явіўся, а ў сталічным Менску станцыя метро Плошча Леніна існуе. Шматкроць гучыць штодня. Вучыся, Масква, рускаму патрыятызму ў беларускіх хватаў!

Памылачка ці свядомае тыканне жыхарох сталіцы незалежнай дзяржавы носам у сцяну бюракратную, у паніжэнне духоўнае?

Галоўную мову дзяржавы, беларускую, у менскім метро нядаўна своеасабліва вылучылі, то бок запаважалі. Нядаўна сталі папярэджваць пасажыраў, каб берагліся ад злодзеяў кішэні. Аб'ява на беларускай мове. Смех і грэх! Як пачуеш адмыслова-гартавую невыразную фразу, так і хочацца сказаць: так і трэба гэтым беларусам! Вымаўленне акурат, як на маскоўскім тэлебачанні.

З той жа оперы назва вуліцы "Веснинка" ў Менску. За трыццаць гадоў таму яе прыдумалі кшталту "Изумрудный", "Янтарный". У сярэдзіне васьмідзесятых на аўтобусных трафарэтах засвяцілася "Вясянка". Пахадзілі колькі месяцаў і знялі з усіх аўтобусаў. Пільныя дазорцы з ЦК былі начаку. І зараз ходзяць аўтобусы з такой недарэчнай, але даўным-даўно зацверджанай назвай – "Веснінка".

Плююць гэтым беларусам у твар з самых розных стрэх, а яны выціраюцца, не бачаць.

Дапамога беларускай дыяспары сваёй зямлі і яе дзецям ёсць. Дзякаваць трэба за яе. Немалая, мусіць, яна. Аднак скажу пра іншае.

Адзін талковы, разумны чалавек, ён тут прысутнічае, быў у прэзідыюме, амаль тры гады ледзь не штодня распавядаў на радыё "Вызваленне", цяпер "Свабода", пра слуцкіх патрыётаў. Героі, непрыманцы камуністычнай няволі ў 1967 годзе спалілі слуцкі суд, суддзю, забілі старшага лейтэнанта міліцыі. Набілі і наламалі шмат чаго і каго.

Прайшлі дзесяцігоддзі.

Адны героі (антыгероі) спалілі Слуцкі суд. Другі слуцак перагаварыў з мноствам удзельнікаў 1967 тагачасся, уладнікамі, міліцыянерамі, суддзямі, пракурорамі, сведкамі. Падоўгу талкаваў з усімі (!) адседзелымі ў турмах. Асобныя хлапчаняты, не забудзем, елі зэкаўскі хлеб па 10-15 гадоў; сядзелі ад званка да званка, без усялякіх скарачэнняў. Хто цяпер надламаны, спіўся, а хто паціху ненавідзіць сістэму.

Амаль закончыў за дзесяцігоддзе рукапіс пра тыя падзеі. Калі топішся, за вострае схопішся; калі ў маці дзіця ў бядзе, не да гонару кабеце. Кідаецца на ўсе бакі. Зажмурыўся, заганаў сваё "Я" ў далёкі схрон, напісаў да дыяспары.

Пра мажлівую дапамогу на гэтую кніжку адазвалася, дзякуй ёй, толькі адна гаспадынька Алена Міхалюк з Манчэстара.

Дарэчы, за трынаццаць гадоў Беларускае выдавецкае Таварыства "Хата", у якім я працую, неакцыянернае, непрыватнае, недзяржаўнае выдавецтва дзевятнаццаць разоў звярталася з просьбамі пра дапамогу ў друкаванні асобных кніг у міжнародныя банкі, сусветны, пасольствы, цэнтры. "Хата" часта мусіла рыхтаваць падрабязныя абгрунтаванні калькуляцыі. Проста маліла: дапамажыце надрукаваць кнігу пра людзей у Польшчы, Германіі, Японіі, Кітаі, ЗША, Швейцарыі...

Сёлета двойчы "Хата" прасіла ў адным з пасольстваў спонсарскай дапамогі на кнігу прозы Л. Левановіча "Усмешлівая Амерыка". У ёй з добразычлівых пазіцый распавядаецца пра жыццё беларусаў і небеларусаў у ЗША. Суму прасілі страшэнна вялікую – эквівалент адной тысячы даляраў. Адказу няма ні "Хаце", ні аўтару. Як і раней ад нашай паважанай дыяспары.

За трынаццаць гадоў ні разу (!) ніхто з замежжа нам не памог. Тварам не выйшаў дырэктар "Хаты"? Не так прасіў? Не ўкленчваў штодня?

Дапамагаюць нам беларускія арганізацыі, прадпрыемствы, установы. Мясцовыя. З замежных, паўтаруся, ні адна, ні разу.

Браткі, нам патрэбна меней самаедства. Тут, у метраполіі, і там, на дыяспары. Давайце памагаць адзін аднаму не ў думках, а і на справе. Пры любых разборках, тым болей калатнечы, прайграюць не толькі асобныя беларусы, а і беларуская справа ў цэлым.

Беларуская Народная Рэспубліка магла выкрышталізавацца, заіснаваць у 1918 годзе. Ужо Масква была "ЗА", хоць рэзка быў супраць Аблвыкамзах, гэтыя мясніковы, ландары, кнорыны, падтурканыя інтэрнбацыяналістам Троцкім.

Беларуская паўнапраўная дзяржаўнасць магла заяскравіцца яшчэ ў тыя часы. Былі б не толькі Граматы БНР, у тым ліку 25 сакавіка, а і паўнапраўная дзяржава, прызнаная ўсімі светам, а не толькі шасцю дзяржавамі.

Было б, магло быць... Каб беларусы, правыя і левыя, эсэры і сацыялісты, аб'ядналіся за святую справу – беларускую дзяржаўнасць.

Не змірыліся адзін з адным, партыя з партыяй. Не хапіла ўмення лавіраваць, саступаць, выслухоўваць да канца. Даказваліся ў праваце, - на радасць палякам і рускім, літоўцам, габрэям.

У выніку – прайгралі. Тады, у пасляпераваротны 1917 года час, самаеды ўласнай гадоўлі нават таленавітага Івана Луцкевіча змусілі вырачыся ад палітычных справаў, адыйсці ў бок.

Каб хісткія, лёсавырашальныя хвіліны далёкай грамадзянскай калатні не паўтарыліся ў новай гісторыі Беларусі, каб нашы цяперашнія ўладаўцы, і дыяспарцы, і мы ўсе не бралі грэх на душу і род свой, не сцёрлі з карты сусвету нацыю беларускую, дзяржаўнасць беларускую, наш дэвіз і лозунг павінны быць адзін – Беларусы, яднайцеся!

Дзеля святой нацыянальнай справы – яднайцеся!

Дзеля народу беларускага і дзяржавы нашай – Беларусі – яднайцеся!

Жыла, жыве і вечна жыцьме Беларусь!

***Валер Санько,***
***дэлегат 4-га з'езду беларусаў свету, пісьменнік, доктар народнай медыцыны.***

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





# ЯК ЮРЫДЫЧНА АБАРАНЯЦЬ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

Першая рэдакцыя Закона **"Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь"** была прынята ў 1990 годзе і затым, у 1998 годзе Закон быў значна зменены, што моцна выхаласціла яго змест. Але тым не менш у Законе застаюцца артыкулы, якімі можна карыстацца для абароны беларускай мовы. Гэтыя артыкулы з'яўляюцца абавязковымі для выканання. Акрамя таго, у канцы 1999 года ў Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністратыўных парушэннях быў унесены **артыкул 172**, які гучыць так: "Публічнае знеслаўленне дзяржаўных і іншых нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва Рэспублікі Беларусь,стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні імі – цягнуць накладанне штрафу на грамадзян у памеры ад 2 да 5 мінімальных заработных плат, на службовых асоб – у памеры ад 5 да 10 мінімальных заработных плат". Парушэнні артыкула 172 разглядаюцца адміністратыўнымі камісіямі пры гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтах.

Згодна Закона **"Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце"** ад 23.11.1993 года асобы не маюць права займаць пасады ў дзяржаўным апараце, калі іх прафесійная падрыхтоўка не адпавядае кваліфікацыйным патрабаванням. **(Артыкул 9 Закона).** Паводле ж Кваліфікацыйнага даведніка пасад дзяржаўных службоўцаў кожны дзяржаўны службовец павінен валодаць наступнымі асабістымі дзелавымі якасцямі – ведаць дзяржаўныя мовы Рэспублікі Беларусь **(Параграф 6.4.1. Даведніка)**. Кваліфікацыйны даведнік зацверджаны **Пастановай № 96** Дзяржкампрацы ад 21.12.1993.

**Артыкул 14** Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (дзейнічае з 01.01.2000) гаворыць, што дыскрымінацыя, гэта значыць абмежаванне ў працоўных правах ці атрыманне якіх-небудзь пераваг у залежнасці ад мовы забараняецца.

А зараз разгледзім артыкулы **Закона аб мовах**, якія з'яўляюцца абавязковымі для выканання.

**Артыкул 3.** Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права звяртацца ў дзяржаўныя органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, ва ўстановы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні на беларускай, рускай або іншай прымальнай для бакоў мове.

Гэта азначае, што мы маем права звяртацца ва ўсе ўстановы на беларускай мове.

**Артыкул 4.** Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання імі сваіх службовых абавязкаў.

Згодна з гэтым артыкулам службовыя асобы, перш за ўсё дзяржчыноўнікі абавязаны адказваць нам, калі мы да іх звяртаемся, на беларускай мове.

**Артыкул 5.** Дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемствы, установы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні павінны прымаць і разглядаць дакументы, якія падаюцца грамадзянамі на беларускай і рускай мовах.

Такім чынам, дакументы на беларускай мове павінны прымацца без усялякіх затрымак.

**Артыкул 14.** У Рэспубліцы Беларусь судаводства вядзецца на беларускай або рускай мовах. Пры разглядзе ў судах крымінальных і грамадзянскіх справаў, гаспадарчых спрэчак асобам, што прымаюць удзел у справе і не валодаюць мовай судаводства, забяспечваецца права азнаямлення з адпаведнымі матэрыяламі, удзел у судовых дзеяннях праз перакладчыка, права выступаць у судзе на мове, якой яны валодаюць. Следчыя і судовыя дакументы выдаюцца асобам, што прымаюць удзел у справе, па іх патрабаванні ў перакладзе на мову, якой яны валодаюць.

Без каментарыяў.

**Артыкул 15.** Вядзенне спраў аб адміністратыўных правапарушэннях у Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на беларускай або рускай мове. Калі асоба, якая прыцягваецца да адміністратыўнай адказнасці, не валодае мовай, на якой вядзецца справа, яна можа выступаць на роднай мове і карыстацца дапамогай перакладчыка.

Без каментарыяў.

**Артыкул 16.** Натарыяльнае справаводства ў Рэспубліцы Беларусь вядзецца на беларускай або рускай мовах. Калі асоба, што звярнулася да натарыяльнага дзеяння, не володае мовай, на якой вядзецца справаводства, тэксты дакументаў павінны быць перакладзены ёй натарыюсам або іншай службовай асобай, што ажыццяўляе натарыяльныя дзеянні, у адпаведнасці з канадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Без каментарыяў.

**Артыкул 21.** Рэспубліка Беларусь гарантуе кожнаму жыхару неад'емнае права на выхаванне і атрыманне адукацыі на беларускай або рускай мове. Гэта забяспечваецца сістэмай дашкольных устаноў, агульнаадукацыйных школ, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.

Безумоўна, менавіта гэты артыкул больш за ўсе іншыя не выконваецца. Словы "неад'емнае права" азначаюць, што калі ў класе нават адзін вучань жадае вучыцца па-беларуску, то гэта права яму павінна быць дадзена.

**Артыкул 28.** У межах Рэспублікі Беларусь паштова-тэлеграфная карэспандэнцыя ад грамадзян, дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў прымаецца на беларускай або рускай мове.

Без каментарыяў.

**Артыкул 33.** Беларускія (рускія) асабовыя імёны і прозвішчы ўжываюцца ў адпаведнасці з імёнаслоўнай традыцыяй, нормамі і правіламі беларускай (рускай) мовы.

Без каментарыяў.

Пры невыкананні вышэйпамянутых артыкулаў Закона аб мовах канкрэтнымі чыноўнікамі заявы трэба пісаць на імя старшыні выканаўчага камітэта раёна ці горада (кіраўніка адміністрацыі) і на імя кіраўніка ўстановы, дзе працуе чыноўнік. Калі парушаюцца артыкулы 3 і 4 Закона аб мовах, то вельмі пажадана, каб заявы былі падпісаны не менш, чым трымя асобамі. Справа ў тым, што ў дадзенай сітуацыі ідзе выключна вусная размова. І, каб чыноўнік не змог абвергнуць сваё невыкананне Закона, пажадана прысутнасць некалькіх чалавек.

Закон аб зваротах грамадзян ад 06.06.1996 устанаўлівае, што звароты могуць быць як вусныя так і пісьмовыя, як індывідуальныя так і калектыўныя.

Прыкладныя ўзоры заяў на парушальнікаў артыкулаў 3 і 4 Закона аб мовах прыкладаюцца.

*Кіраўніку ўстановы*
*Ад (прозвішча, імя, імя па бацьку)*
*(месца жыхарства)*

**Заява**

*Число, месяц, год* я (мы) звярнуўся да *пасада, прозвішча, імя, імя па бацьку* па справе (указаць па якой). Пры гэтым я (мы) пачалі размаўляць з *прозвішча, імя, імя па бацьку* па-беларуску і папрасіў яго адказваць на гэтай мове. Але *прозвішча, ініцыялы* адмовіўся (указаў ці не ўказаў прычыну). У сувязі з тым, што былі парушаны артыкулы 3 і 4 Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь, артыкул 9 Закона аб асновах службы ў дзяржаўным апараце і параграф 6.4.1. Кваліфікацыйнага даведніка пасад дзяржаўных служачых, прашу прыняць адпаведныя меры ў адносінах да вашага падначаленага (падначаленай).

*Дата.* *Подпіс.*

*Старшыні*
*выканаўчага камітэта*
*(кіраўніку адміністрацыі)*

**Заява**

*Число, месяц, год* мы, што ніжэй падпісаліся, звярнуліся да *пасада, прозвішча, імя, імя па бацьку* па канкрэтнай справе (указаць па якой) пры гэтым мы ветліва папрасілі *прозвішча, імя, імя па бацьку* адказваць нам па-беларуску. Але ён (яна) адмовіўся, спаслаўшыся (на што спаслаўся).

У сувязі з тым, што адмовай размаўляць з намі на дзяржаўнай беларускай мове былі створаны перашкоды і абмежаванні ў карыстанні гэтай мовай і парушаны артыкулы 3 і 4 Закона аб мовах Рэспублікі Беларусь ад 17.07.1998, артыкулы 9 і 10 Закона аб асновах службы ў дзяржаўным апараце ад 23.11.1993 і параграф 6.4.1. Кваліфікацыйнага даведніка пасад дзяржаўных служачых ад 21.12. 1993, просім скласці пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні на *пасада, прозвішча, імя, імя па бацьку* згодна артыкула 172 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністратыўных правапарушэннях.

*Дата.* *Подпіс.*
Прозвішча, імя, імя па бацьку.
Месца жыхарства.
*Подпіс.*
Прозвішча, імя, імя па бацьку.
Месца жыхарства.
*Подпіс.*
Прозвішча, імя, імя па бацьку.
Месца жыхарства.

***Падрыхтаваў Юрась Шыбіцкі.***

# Адгукнулася болем у сэрцах сяброў

**(Светлай памяці Ібрагіма Конапацкага, 40 дзён як няма яго сярод нас)**

Гавараць пра Ібрагіма Барысавіча Канапацкага (Рай і спакой яго душы ды дабраславенне Алаха) у мінулым часе, язык не паварочваецца. Для мяне ён святы, дарагі сябра, аднадумец. Ён побач са мной у агульных нашых справах адраджэння культуры двух народаў: беларусаў і беларускіх татар. Ён будзе жыць у маёй памяці да майго скону як вучоны чалавек высокай маралі і духоўнай чысціні, інтулектуал, гісторык з цікавым багажом ведаў. Таму, лічу, і страта ў нашай краіне вялікая. Ці знойдзецца цяпер сярод татар-беларусаў роўня яму ў самаахвярнасці, сціпласці і сумленнасці, роўні ў ведах гісторыі жыцця дзейнасці татар на Беларусі, чалавечай дабрыні і годнасці, прастаты ўзаемаадносін і магнетычнай здольнасці прыцягваць сваімі сардэчнасцю, душэўнасцю і духоўнасцю да агульнага супрацоўніцтва і сяброўства.



Маё знаёмства з Ібрагімам адбылося на другім з'ездзе Таварыства беларускай мовы. Увогуле, мяне тады татары ўразілі сваёй чысцінёй мовы і беларускасцю, большвй адданасцю ёй, чым шмат хто з саміх беларусаў. Гонар было мець такіх сярод сяброў ТБМ, і мы ўсе яго любілі. І не магчыма было не любіць. Яго характар – гэта асноўная адметнасць беларускага татарына: уменне не канфліктаваць.

Зверху, у пачатку арабскай вязью, а ніжэй па-беларуску: *"Вельмі шаноўнаму Міколу Лавіцкаму ў знак шчаслівага нашага знаёмства з надзеяй на далейшае супрацоўніцтва. Вельмі шчыра: Ібрагім Канапацкі, Якуб Якубоўскі, Мір Вам, міласць Алаха Усявышняга і яго дабраславенне. 6.03.1996 г"*. Вось які дарагі надпіс зрабілі для мяне два вялікія сыны татарскага народу на падоранай мне брашуры "Понимаете ли вы ислам?"

Як жа пасля такіх слоў застацца абыякавым, не ўзрушыцца. І я стаў у іх шэрагі, знайшоўшы сваё месца карэспандэнта на грамадскіх пачатках па асвятленні дзейнасці грамадскага аб'яднання татар "Зікр уль-Кі-таб", у якім Ібрагім быў і арганізатарам яго і рухавіком.

Ён быў вясёлым, аптымістычным чалавекам. І толькі позірк вачэй калі-нікалі выдаваў, што на душы ў яго неспакой, нечым заклапочаны. Мне здаецца, што ён усе непрыемнасці перажываў унутрана, не выплёскваючы вонкі. Я саромеўся часта турбаваць яго сваімі званкамі, аб чым цяпер шкадую. Але калі такое адбывалася то нашы размовы былі доўгія. Ад яго і анекдот можна было пачуць. Бывала, ён казаў: "Вось дачка выйшла, я табе анекдот цяпер раскажу па гэтым выпадку...№. 1 да сур'ёзнай гутаркі якраз дапасоўваў смешны анекдот. Усе яны былі прыстойныя.



Для мяне было вялікім шчасцем і гонарам невыказным запрашэнне ім на закладку ў Менску першага блока у падмурак галоўнай мячэці мусульман Беларусі. Толькі адным тым усе мае будучыя нашчадкі ўсіх пакаленняў павінны ганарыцца.

Незабыўнае маё сведчанне ў музеі гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі. Там гасцінна, па-сямейнаму цёпла прымалі дырэктар музея Іна Герасімава, старшыня грамадскага аб'яднання яўрэяў Леанід Левін яго і яго сваячку Айшу Сулейманаўну Трафімаву-Канапацкую, якая сустракалася тут як праведнік народаў свету з Рахіль Шмайловіч, прыехаўшай з Ізраіля.

Яе ў вайну Айша разам са сваёй маці Фацімой Мустафаўнай Канапацкай хавалі у Менску ад знішчэння. А спатканне іх адбылося дзякуючы няўрымслівай працы Ібрагіма.

Жыць у цесных узаемаадносінах з рознымі супольнасцямі з даўніны ў генах Канапацкіх. У 20-х гадах мінулага стагоддзя ў Смілавічах, дзе ён у 1949 годзе нарадзіўся, жыло 2,5 тысячы яўрэяў, 400 католікаў, 600 татараў. Дзяржаўнай мовай да 1929 года там быў ідзіш. Яго бабулька гаварыла на ім, валодаючы усімі мовамі той мясціны. Мяне ўражвала як лёгка чытаў Ібрагім малебен па-арабску будучы намеснікам муфція беларускіх мусульман.

Я не адразу даведаўся пра яго смерць, але добра помню, у той дзень, 8 верасня, я чамусьці палез у кніжную шафу, выпадкова трапілі ў рукі яго да мяне разрозненыя лісты, пісьмы, віншавальныя карткі. Я пачаў іх перачытаваць і склаў у асобную тэчку. Ну ці не прадчуванне гэта? Яго смерць адгукрулася болем у сэрцах сяброў.

***Мікола Лавіцкі,***
***старшыня рэвізійнай камісіі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".***

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# КЕЙДАНСКАЯ УНІЯ

## (да яе 350-годдзя)

У гісторыі Беларуска-Літоўскай дзяржавы сярэдзіны ХУІІ стагоддзя ёсць і незвычайная з'ява спробы разарваць Люблінскую унію 1569 г. Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы. Пры гэтым здзяйсняўся праект стварэння новай федэра-



*Януш Радзівіл*

цыі – саюзнай дзяржавы Швецыі і Вялікага Княства Літоўскага пад эгідай шведскага караля. Якраз 20 кастрычніка спаўняецца 350 год падпісання Кейданскай уніі 1655 г., названай так па месцы яе заключэння ў горадзе Кейданы (літоўская назва Кедайняй), што знаходзіцца на поўнач ад Коўні. Кейданы былі ў складзе Жамойціі і былі прыватнаўладальніцкім горадам, разам з наваколлем належалі біржанска-дубінкаўскай, кальвінісцкай лініі магутнага роду князёў Радзівілаў. У 1655 г. яны належалі лідару кальвіністаў у Вялікім Княстве Літоўскім, князю Янушу Радзівілу (1612-1655), ваяводу віленскаму і гетману велікаму Беларуска-Літоўскай дзяржавы, старасце жамойцкаму. Януш Радзівіл быў уладальнікам вялікіх маёнткаў у Літве і Беларусі. Яго падтрымліваў дваюрадны брат, князь Багуслаў Радзівіл, які меў даволі сціплы (у параўнанні з братам) тытул канюшага Вялікага Княства Літоўскага.

Багуслаў Радзівіл быў уладальнікам Слуцкага і Капыльскага княстваў, меў латыфундыі ў Літве –Біржы і Дубінкі, на Падлессі – Заблудаў, у Беларусі – Койданаў, Капыль і іншыя. Гэты сямейны клан Радзівілаў меў вялікія ўплывы ў Вялікім Княстве Літоўскім. Янушу Радзівілу як гетману падпарадкоўваліся не толькі войскі дзяржавы, але, як і брат Басуслаў, ён меў і свае ўласныя, прыватныя харугвы са службовай шляхты (якой Радзівіл надаваў маленьнія маёнткі за вайсковую службу), пехацінцаў-выбранцаў (на такой жа васальнай службе), наёмную пяхоту і артылерыстаў, пераважна немцаў. Усе гэтыя абставіны, а таксама падтрымка Радзівілаў пратэстантамі, якіх яны і ўзначальвалі, яшчэ больш падвышалі значэнне групоўкі Радзівілаў у дзяржаве. З імі лічыліся іншыя магнаты і сам кароль і Вялікі князь Ян Казімір.

Становішча Беларусі і Літвы, як і Польшчы ў 50-я гады ХУІІ ст. значна пагоршылася. У 1648-1649 гг. на ўсходніх землях Украіны ў выніку вызваленчай вайны запарожскага казацкага войска, а таксама сялянаў і мяшчанаў, утварылася Украінская дзяржава на чале з гетманам Багданам Хмяльніцкім і казацкай старшыной. На тэтыторыі Беларусі хадзілі казацкія "загоны", да якіх далучаліся сяляне. Польшча вяла войны з казакамі. У іх удзельнічала беларуска-літоўскае войска. Так, у 1651 г. яно пад камандаваннем Януша Радзівіла нанесла выт казацкаму войску і заняло Кіеў, пасля чаго Хмяльніцкаму прыйшлося тэрмінова заключыць нявыгадны для казацкай Украіны мір.

Становішча для Беларусі пагоршылася яшчэ больш ў 1654 г. Царская Расія разам з гетманскай Украінай пачала вайну супраць Рэчы Паспалітай. За дзве ваенныя кампаніі 1654 і 1655 гг., якія праходзілі ў летне-асенні час, расійскія войскі і ўкраінскія казакі захапілі большую частку Беларусі, за выняткам Берасцейскага павету, часткі Навагградскага і Троцкага ваяводстваў і гарадоў-цвердзяў Слуцка і Быхава, якія расійскія войскі ўзяць не здолелі. Але былі занятыя Вільня, Трокі і Коўня. Цар Аляксей Міхайлавіч абвясціў сябе Вялікім князем Літоўскім.

У 1655 г. на аслабленую Рэч Паспалітую напала Швецыя. За тры месяцы шведскія войскі занялі амаль усю тэрыторыю Польшчы, апроч яе самых ўсходніх раёнаў і Заходняй Украіны. Шведская армія з Ліфляндыі на чале з Габрыелем-Магнусам Дэлягардзі заняла Дынабург (Даўгаўпілс) і Жамойцію. Здавалася, склалася катастрафічнае становішча для шляхты Літвы і Беларусі.

Магнус Дэліягардзі звярнуўся да шляхты Вялікага княства Літоўскага, прапануючы ёй капітуляваць. На гэта адказаў Януш Радзівіл, прапануючы свой праект. У ліпені 1655 г. абодва браты Радзівілы накіравалі свайго паўнамоцнага пасла ў Рыгу для перамоваў з Дэлягардзі.

Януш Радзівіл прапанаваў Швеціі абараніць Літву ад расійскага войска, пакінуць яе нейтральнай у вайне Швецыі і Польшчы, а за гэта абяцаў, што пасля вайны шведскі кароль Карл Х Густаў будзе абвешчаны ўладаром Літвы. Перагаворы зацягваліся.

Браты Радзівілы намагаліся захаваць незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага ў саюзе са Швецыяй, а шведскаму каралю прапанавалася быць уладаром Літвы і Беларусі, але ўладу перадаць на месцы Радзівілам. Гарантыяй захавання ўладнага становішча Радзівілаў было стварэнне васальных княстваў: у Жамоціі, Гарадзенскім і Вілкамірскім паветах для Януша Радзівіла, а для Багуслава Радзівіла -- у складзе Навагградскага, Менскага і Падлесскага ваяводстваў. Аднак шведскі бок не прыняў гэтых умоў, згаджаючыся перадаць Багуславу Радзівілу толькі Берассцейскую і Кобрынскую эканоміі, а таксама Бабруйскае староства. Перамовы працягваліся далей.

Царскі ўрад са свайго боку патрабаваў ад Швецыі цалкам адмовіцца ад прэтэнзій на Вялікае Княства Літоўскае, бо яно з'яўляецца "извечной вотчиной" расійскага цара.

17 жніўня 1655 г. гетман вялікі Януш Радзівіл, гетман польны Вялікага княства Літоўскага Вінцэнт Корвін Гасеўскі, епіскапат Каталіцкага касцёлу і частка вышэйшых вайскоўцаў, усяго 436 чалавек, падпісалі ў Кейданах праект пагаднення са Швецыяй. У гэтым праекце абвяшчалавя унія Вялікага Княства Літоўскага са Швецыяй на роўных правах. Адначасова скасоўвалася дзяржаўная унія Вялікага Княства з Польшчай. Шведскі кароль абавязваўся вызваліць тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага з-пад расійскай акупацыі. Страчаныя замкі, гарады і маёнткі падлягалі вяртанню сваім законным уладальнікам. Абвяшчалася свабода веравызнання, згодна з даўняй традыцыяй Беларуска-Літоўскай дзяржавы.



*Вінцэнт Гасеўскі*



*Багуслаў Радзівіл*

Паколькі значная частка была незадаволеная гэтым праектам, 20 жніўня 1655 г. быў прыняты новы праект дакумента (пасля перамоваў са шведскімі прадстаўнікамі). У асноўным ён паўтараў умовы папярэдняга праекту. Я. Радзівіл адвёў 5-тысячныя войска ў Жамойцію, каб бараніць гэты край, прадстаўнікі Швецыі гарантавалі абарону краю ад расійскіх войскаў. Адначасова расійскія войскі спынілі свой наступ на гэтую тэрыторыю.

Шведскі намеснік у Інфлянтах, не згаджаючыся на ўмацаванне ролі Радзівілаў у Вялікім Княстве Літоўскім, звярнуўся непасрэдна да шляхты Вялікага Княства Літоўскага, з чым мусіў лічыцца Януш Радзівіл. Была прадугледжана і тэрыторыя пад уладай Радзівілаў.

Урэшце 20 кастрычніка 1655 г. у Кейданах быў падпісаны акт Кейданскай уніі паміж Швецыяй і Вялікім княствам Літоўскім. Галоўнымі ўмовамі уніі былі:

1.Вялікае Княства Літоўскае будзе ваяваць разам са Швецыяй супраць агульных непрыяцеляў, за выключэннем караля і Польшчы.

2. Вялікае Княства Літоўскае не будзе ўключаца ў склад Швецыі, але будзе з ёй так аб'яднана, як да гэтага часу з Каронай Польскай. Гэта значыць, каб народ з народам, сенат з сенатам, а рыцарства з рыцарствам ва ўсім былі б роўныя.

3. Вольнасць голасу на соймах нікому не павінна быць забаронена.

4. Вольнасць рэлігіі павінна быць непарушаная.

Аднак значная частка шляхты і вайсковых харугваў выступіла супраць гэтага пагаднення аб уніі са Швецыяй. Тым больш, што шведскія войскі паводзілі сябе як акупанты. Януша Радзіліла абвінавацілі ў здрадзе.

Хаця, зыходзячы з агульнай сітуацыі, пагрозы захопу і Жамойціі расійскімі войскамі ды і для самой Літвы такое рашэнне Януша Радзівіла было лагічным. Асноўнай мэтай заключэння уніі са Швецыяй для Я. Радзівіла было затрыманне далейшага наступу расійскага войска, прадухіленне масавых рабаванняў і забойстваў, спалення гарадоў (як гэта здарылася з большай часткай кварталаў Вільні).

Тым не менш не прыняў уніі Вінцэнт Гасеўскі, а верныя дагэтуль Я. Радзівілу вайсковыя аддзелы яшчэ 23 жніўся ў Вежбакаве стварылі канфедэрацыю супраць Януша Радзівіла і Швецыі. Пра гэта яскрава апавядае Генрык Сенкевіч у рамане "Патоп". Супраць Радзівіла выступіў і віцебскі ваявода Павел Сапега. Супраць канфедэратаў і войска П. Сапегі ў лістападзе 1655 г. рушыў у сваю апошнюю ваенную кампанію Януш Радзівіл. Нават першапачатковыя прыхільнікі пагаднення са шведамі пачалі масава адыходзіць ад іх падтрымкі. Януша Радзівіла аблажылі ў замку Тыкоціне яго супраціўнікі. У ноч на 31 снежня 1655 г. у гэтым замку Януш Радзівіл памёр, а разам з ім і справа дзяржаўнай уніі Вялікага Княства Літоўскага са Швецыяй.

***Анатоль Грыцкевіч,***
***доктар гістарычных навук.***

## У МАСКВЕ ЗАВЯРШЫЛАСЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ "БУДАЎНІЧАЯ КЕРАМІКА ЎСХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ Ў ЭПОХУ СЯРЭДНЯВЕЧЧА І АДРАДЖЭННЯ"

14 кастрычніка ў Маскве, у Дзяржаўным мастацкім гістарычна-архітэктурным, прыродна-ландшафтным музеі-запаведніку "Каломенскае" завяршылася трохдзённая навуковая канферэнцыя **"Будаўнічая кераміка Усходняй Еўропы ў эпоху Сярэднявечча і Адраджэння: захаванне і перадача культурных імпульсаў".**

У канферэнцыі бралі ўдзел архітэктары, гісторыкі, археолагі, мастацтвазнаўцы і рэстаўратары з Беларусі, Расіі і Украіны.

У інтэрвію БелаПАН удзельнік канферэнцыі, беларускі вучоны і археолаг, кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў паведаміў, што спецыялісты разглядаюць праблемы вывучэння будаўнічых матэрыялаў, якія выкарыстоўваліся ва Усходняй Еўропе ў XI—XVIII стагоддзях. "Размова ідзе, у прыватнасці, пра тэхналогіі вытворчасці, будаўнічыя і мастацкія асаблівасці, ужыванне, калекцыяванне, музеефікацыю, рэстаўрацыю і экспанаванне ўзораў цэглы, дахоўкі, кафлі, падлогі і сістэм цаглянай кладкі, уласцівых розным будаўнічым традыцыям каменных збудаванняў. Спачатку гэта была візантыйская традыцыя, якая прыйшла на тэрыторыю Усходняй Еўропы з Візантыі разам з хрысціянствам, потым у каменных пабудовах на тэрыторыі сучасных Беларусі, Расіі і Украіны прасочваецца заходнееўрапейскі ўплыў, які ў Расіі асабліва яўна праяўляецца ў эпоху рэформ Пятра І", — зазначыў А.Трусаў. Паводле яго слоў, вынікі канферэнцыі будуць прадстаўлены ў ілюстраваным зборніку, які плануецца выдаць у Санкт-Пецярбургу ў 2006 годзе.

"Гэтая канферэнцыя з'яўляецца важным унёскам у скарбніцу сусветнай навукі і яркім прыкладам культурнай інтэграцыі славянскіх дзяржаў, пазбаўленай імперскіх амбіцый", — сказаў вучоны.

***Марат ГАРАВЫ,***
***БелаПАН.***

## Сустрэчы ў сядзібе ТБМ:

**20 кастрычніка ў 18.00.** Л. Дзіцэвіч. Як жыць лепей ва ўмовах эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краіне.

**24 кастрычніка ў 18.00.** З. Шыбека. Гарадская цывілізацыя ў Беларусі 19-20 стст.

**1 лістапада ў 18.00.** У. Арлоў. Гістарычныя ваколіцы. Вандроўкі ў прасторы і часе.

**1 лістапада ў 19.30.** А. Анісім. Як стварыць суполку ТБМ.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# "Каляндар Хрысціяніна"– падручнік для духоўнага навучання

Нядаўна ў Беларусі з'явілася новае выданне. Касцёл святога Сымона і святой Алены надрукаваў "Каляндар Хрысціяніна", аўтар якога – ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк.

Назва выдання невыпадковая. У самым пачатку аўтар тлумачыць, што такое каляндар увогуле, навошта ён і параўноўвае каляндар прыродны, жыццёвы, гадавы, часавы, транспартны і г.д. з духоўным каляндаром, літургічным каляндаром святаў і духоўных абавязкаў. Вось такі духоўны каляндар і пастараўся даць пробашч касцёла сваім прыхаджанам.

А. Уладзіслаў разважае над паняццямі, практыкуючы тэрміны "жывы" хрысціянін і "мёртвы" хрысціянін, які не ведае малітваў, жыве не ў шлюбе, не бывае ў споведзі, не прымае Камуніі, не ходзіць у храм, але калісьці быў ахрышчаны. Аўтар цытуе Святую Біблію ў дачыненні да гэтых яго дзей: *"Хто не са Мною, той супраць Мяне; і хто не збірае са Мною, той раскідае"*. Бязбожны ж чалавек – гэта трагедыя народа. Ён заслугоўвае божага гневу, наступствы якога – сённяшнія катаклізмы і хваробы.

Ксёндз звяртае ўвагу людзей на адну вельмі важную акалічнасць жыцця – выхаванне дзяцей. Аўтар лічыць, што сённяшнія дарослыя калісьці ў савецкі час, "будуючы камунізм" забыліся на выхаванне, пагэтаму сучасным маладым складана абыходзіцца са свабодай выбару і многія не знаходзяць дарогу да храма з ляноты ці абыякавасці.

У кнізе аўтар падае назвы і даты абавязковых святаў, а таксама парады іх святкавання, каб цела і душа былі ў гармоніі. Адчуваецца вялікі клопат святара пра сваіх вернікаў, жаданне навучыць усіх людзей любіць, бо Бог – гэта любоў. На працягу ўсёй кнігі зноў і зноў аўтар гаворыць пра гэтую неабходную, самую важную ў жыцці энергію пачуццяў. З любові нараджаецца чалавек, вучыцца любіць Бога, сябе і свайго бліжняга. З любоўю пачынае і заканчвае свае справы. Бацькі вучаць дзяцей любіць усё жывое на зямлі, а дзеці любяць і паважаюць сваіх бацькоў. Шаноўны ксёндз стараецца растлумачыць людзям, што трэба вучыцца любіць не толькі харошых людзей, бо паняцце "добры" ў кожнага чалавека сваё. Неабходна навучыцца любіць усіх, такіх розных па характарах, як гэта робіць сам Бог. Кожны чалавек неабходны нашаму Свету, якім бы ён ні быў. Аўтар расказвае, як адзін малады чалавек, маючы бацьку – алкаголіка, дачуўшыся аб смерці свайго любімага дзядзькі, шкадуе, што менавіта бацька застаўся жыць. Энергія любові пакідае дамы, не мацуе адносін паміж людзьмі – і тады з'яўляюцца няшчасці і хваробы.

Уладзіслаў Завальнюк удала ўводзіць у сваю кнігу гістарычны аспект: асноўныя даты з жыцця кардынала Казіміра Свёнтака, з гісторыі каталіцкіх храмаў, у тым ліку і Чырвонага касцёла. У кнізе можна прачытаць пра заснаванне радыёперадачы "Голас душы" і сённяшнія праблемы, звязаныя з гэтым пытаннем, пра Хрысціянскае Таварыства Міласэрнасці, працу двух тэатраў, семі хароў, бібліятэкі, навуковага цэнтра, дзіцячых гурткоў.

Асноўная частка кнігі прысвечаная навучанню хрысціяніна. На цудоўнай беларускай мове ў зразумелай форме аўтар тлумачыць асноўныя аспекты Біблії; вучыць людзей катэхізму.

Мяне ўразілі чатыры парады святара чытачам. Гэта радзіць ужо нават не толькі святар, парады дае дасведчаны чалавек, мудры Настаўнік, таленавіты творца. Так і стаіць перад вачыма вобраз маладога дрэўца – чалавека, абцяжаранага шкоднымі пладамі: алкаголем, наркотыкамі, тытунём. СНІДам, самотай, непаслухмянасцю. І ломяцца галіны ў такога дрэва, бо гаспадарам–бацькам няма калі падпоркі ставіць, самі яны выспелілі такія ж плады.

Гэта багатая метафара выразна гаворыць пра сардэчны боль святара, які ў трывозе за сваю паству, за ўвесь свет. Ксёндз расказвае пра свае сустрэчы з людзьмі, гутарыць з імі. Адчуваецца, што а. Уладзіслаў – добры псіхолаг і дыпламат. Ён стараецца навучыць людзей любіць, каб яны былі падобныя да Бога ў гэтай асноўнай на зямлі энергіі, а таксама навучыць людзей ісці ўперад, "бо толькі той, хто ідзе, адолее дарогу!"

Сам Уладзіслаў Завальнюк вось ужо некалькі дзесяцігоддзяў мужна ідзе наперад, пракладваючы сляды духоўнага шляху для беларусаў, адурманеных бязбожнасцю савецкага часу.

Святар тлумачыць у кнізе сэнс і цану малітвы, якая, як "асвяжальны напой душы для збаўлення, гаючы эліксір не толькі даўгалецця, але і вечнага жыцця, - гэта ўдзячны гімн душы". Ксёндз уводзіць тэксты асноўных малітваў і расказвае пра сем Святых Сакрамантаў: Сакрамант Хросту, Бежмавання, Эўхарыстыі. Пакаяння, Намашчэння Хворых, Святарства, Шлюбу.

Падае аўтар таксама і каляндар усіх святаў на ўвесь год, канкрэтна распавядаючы пра кожнае свята. Гэта вельмі важная інфармацыя, бо, мы часта не ведаем, чаму святкуем тое ці іншае свята, чаму яно так называецца. У "Каляндары" мы можам знайсці цікавую і патрэбную інфармацыю пра гэта.

На мой погляд, важным і неабходным таксама з'яўляецца памесячны каляндар іменаў, і кожны чалавек можа выбраць імя дзіцяці адпаведна таму дню і месяцу, калі яно нарадзілася.

Змяшчае аўтар у кнізе і святы паводле каляндара праваслаўнага. Бог адзіны для ўсіх.

Патрэбнымі для людзей будуць і рацэпты духоўных страў, якія падае аўтар: пасхі, куцці, пернікаў і інш.

Заканчвае аўтар сваю кнігу пералікам парафіяльных урачыстасцяў і набажэнстваў і душпастырскіх паслугаў.

Новае выданне, нягледзячы на аб'ём 597 стар., чытаецца лёгка і ўзнёсла, бо адлюстроўвае патрэбу душы кожнага чалавека – "узрастаць у хрысціянскай праўдзе і цноце". З дапамогай "Каляндара Хрысціяніна", я мяркую, кожны жыхар Беларусі можа ўсвядоміць сваю святую лінію на зямлі – быць Божымі сынамі захоўваць у душы агеньчык духоўнасці, як і агонь душы самога аўтара кнігі, ксендза – магістра, ля якога грэюцца і ачуньваюць, адольваюць скруху і адчай вернікі Касцёла святога Сымона і святой Алены.

*Людміла Дзіцэвіч.*

Каляндар Хрысціяніна

# Язэпу Палубятку - 50

14 кастрычніка споўнілася 50 гадоў шчыраму беларусу, сябру ТБМ, пісьменніку, сябру беларускага ПЭН-цэнтра, палітычнаму і грамадскаму дзеячу Язэпу Палубятку.

Язэп Палубятка нарадзіўся ў в. Дашкаўцы Мастоўскага раёна, скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт, працаваў у Мастах інжынерам на вузле сувязі.

З 1988 года стаў у шэрагі змагароў за нацыянальнае адраджэнне беларусаў. Арганізатар і першы старшыня Мастоўскай арганізацыі БСДГ, сябар БЗВ, актыўны сябар Мастоўскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.

З 1997 года Язэп Палубятка цесна супрацоўнічае з рэдакцыяй газеты "Наша слова". Менавіта Я. Палубятка перадаў рэдакцыі першы кампутар, з якога пачалося развіццё матэрыяльнай базы рэдакцыі ў Лідзе.

Да 2003 года Я. Палубятка быў сябрам рэдкалегіі "Нашага слова", пэўны час вёў адну з рубрык газеты.

Язэп Палубятка ўсе апошнія годы знаходзіцца на вастрыні палітычнага і грамадскага жыцця Гарадзеншчыны. На працягу доўгага часу быў кіраўніком Гарадзенскай абласной аргаізацыі БСДП (НГ). Працаваў карэспандэнтам незалежнай гарадзенскай газеты "Пагоня", выдаваў незарэгістраваную газету "Мастоўскі веснік". У пачатку 2000-х гадоў быў галоўным рэдактарам, выдаўцом, намеснікам галоўнага рэдактара незалежнай газеты "Тэлескоп". Зараз працуе карэспандэнтам недзяржаўнай "Газеты Слонімскай", з'яўляецца сябрам Рабочай групы Асамблеі няўрадавых арганізацый Беларусі.

Плённа працуе Я. Палубятка на літаратурнай ніве, друкуецца ў розных выданнях. Яго аповесць "Дуралесіца" была надрукавана ў "Нашым слове".

Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" віншуюць Язэпа Палубятку з юбілеем і зычаць яму здароўя і сілаў дзеля плённай працы на карысць Бацькаўшчыны.

Беларуская мова-ТБМ-наша будучыня

## Ахвяраванні на ТБМ

1. Петрукевіч Васіль – 21000 р., г. Менск.
2. Палсцюк Валер – 10000 р., г. Менск.
3. Ждановіч М.В. – 10000 р., г. Менск.
4. Бярбераў Уладзя – 4000 р., г. Менск.
5. Санько Валер – 10000 р., г. Менск.
6. Скрэчка Анатоль – 10000 р., г. Мазыр.
7. Іна Карсоўская – 2600 р., г. Менск.
8. Русак Уладзісл. – 20 дол., г. Менск.
9. Панкоў Сяргей – 10000 р., г. Менск.
10. Вінаградаў Дзмітры – 10000 р., г. Медзель.
11. Удзельнікі Кангрэсу Д.С. – 68230 р.
12. Шкірманкоў Фелікс – 10000 г. Менск.
13. Фурс Антон – 10000 р., г. Паставы.
14. Іпатава Вольга – 5000 р., г. Менск.
15. Хадоскін-Ігнацікаў– 3000 р., г. Гомель.
16. Мамчыц Эдуард – 10000 р., г. Віцебск.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня
Разам

**Касір**

Плацельшчык

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня
Разам

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

Плацельшчык

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Гісторыя развіцця Лепельскага раённага краязнаўчага музея



*Герб Лепеля*

Музей у Лепелі адносіцца да комплексных краязнаўчых музеяў, якія складаюць большую частку музеяў рэспублікі. Лепельскі краязнаўчы музей створаны 50 гадоў таму. Пастанова Савета Міністраў БССР ад 4 лістапада 1953 г. кажа: *"Открыть в 1953 году районный краеведческий музей в городе Лепеле Витебской области"*. Гэтай жа пастановай былі зацверджаны штаты музея. Уводзілася чатыры адзінкі: дырэктар, навуковы супрацоўнік, наглядчык і прыбіральшчыца.

У 1953 г. Лепельскі краязнаўчы музей размяшчаўся на беразе возера ў драўляным будынку п. XIX ст. (у будынку былой канторы Бярэзінскай воднай сістэмы). Першымі дырэктарамі працавалі С.Т. Камека, І.С. Цырлін, М.Ф. Бурэнін. Першая экспазіцыя пачала працаваць з 8 снежня 1954 г. і была прадстаўлена залай "Сацыялістычнага будаўніцтва". Адначасова ішла праца па іншых раздзелах, таксама ствараўся аддзел "Прыроды". У экспазіцыі тады знаходзілася 280 экспанатаў, зал складаўся з 12 тэм: 1)Прамысловасць горада Лепеля; 2)Механізацыя сельскай гаспадаркі і перадавікі механізацыі; 3)Зерневыя культуры; 4)Лён; 5)Агародніцтва і г.д. У тым жа годзе супрацоўнікі музея праводзілі збор матэрыялаў па існых тэмах: 40 гадоў Савецкай уладзе (грамадзянская вайна, нямецкая акупацыя 1918 г., аднаўленне народнай гаспадаркі пасля грамадзянскай вайны), жыццё Лепеля ў эпоху феадалізму, партызанскі рух у гады Вялікай Айчыннай вайны.

У 1956 г. паўстала пытанне аб пашырэнні экспазіцыі і неабходнасці для гэтага новых залаў. Ды і само памяшканне музея патрабавала рамонту. Музей размяшчаўся ў двух памяшканнях. У будынку, які належаў музею, размешчалася яшчэ тры арганізацыі: педкабінет, камендатура, дом піянераў, а таксама ў двух пакоях жыла адна сям'я.

3 ліпеня 1957 г. месца дырэктара заняла настаўніца гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Н.Ф. Шыпуля, якая працавала ў музеі 10 гадоў і вельмі шмат зрабіла для развіцця музея. У 1957 г. уся праца музея была накіравана на падрыхтоўку да 40-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі (былі сабраны матэрыялы аб рэвалюцыі і грамадзянскай вайне, праведзена 13 экскурсій, 1 выстава, 10 лекцый).

Пасля запуску Лепельскай ГЭС узровень вады ў Лепельскім возеры падняўся, вуліца "Бярэзінская сістэма", дзе знаходзіўся музей, была затоплена, і ў 1959 г. будынак музея перанеслі на скрыжаванне вуліц М. Горкага і Калініна (тады Мопраўская). Пакуль вялося будаўніцтва, музей размяшчаўся ў адным з памяшканняў раённай бібліятэкі на вуліцы К. Маркса.

У жніўні 1967 г. дырэктарам музея стала З. Жарнасек. Расшырыўся штат музея, працавала ўжо два навуковых супрацоўнікі. У гэты ж час у музеі налічвалася 3272 прадметы асноўнага фонду, а плошча музея складала 313 м², у тым ліку пад фонд памяшканне ў 13 м². Была занава пераафармлена экспазіцыя ўсіх залаў музея, сабраны новыя экспанаты і праведзены капітальны рамонт будынка. У музеі былі тры аддзелы: прыроды, гісторыі савецкага перыяду (1917-1945 гг.), аддзел пасляваеннага будаўніцтва і пакой гісторычнага мінулага нашага краю. У аддзеле прыроды ўсталяваны дыярамы, радыёпрыёмнік з прайгравальнікам. Тады ж быў створаны макет партызанскай зямлянкі, які і зараз знаходзіцца ў экспазіцыі музея.

У 1969 г. дырэктар музея прымала ўдзел ва Усесаюзнай нарадзе супрацоўнікаў музеяў у Маскве. У музеі праводзілася вялікая масавая праца, побач з лекцыямі і экскурсіямі, праводзіліся таксама паходы з вучнямі па месцах баявых дзеянняў партызан. Было арганізавана 7 дакументальных выстаў, прачытаны 7 лекцый і праведзена больш 100 экскурсій.

У 1970 г. распрацаваны тэматыка-экспазіцыйны план аддзела пасляваеннага сацыялістычнага будаўніцтва. На яго афармленне звярталася асаблівая ўвага. А ўжо ў 1971 г. план быў здзейснены. Аддзел гісторыі савецкага перыяду 1917-1945 гг. размяшчаўся ў двух залах (70 м² і 20 м²). Зала пасляваеннага сацыялістычнага будаўніцтва займала плошчу 80 м², аддзел прыроды – 70 м², аддзел дасавецкага перыяду – 60 м². У гэтым жа годзе былі радыёфіцыраваны ўсе залы музея.

У 1972-1974 гг. да будынка музея была зроблена прыбудова для фондасховішча (на сучасны момант гэта частка будынка выкарыстоўваецца для экспазіцыі). У тым жа 1974 г. у асноўным фондзе Лепельскага краязнаўчага музея налічвалася 4200 прадметаў. У 1975 г. дырэктарам музея прызначаны дасведчаны спецыяліст А.Б. Сімакова. У гэты час у музеі былі наступныя залы: прыроды, дарэвалюцыйнага мінулага, гісторыі савецкага перыяду, пасляваеннагг будаўніцтва, зала Вялікай Айчыннай вайны.

З 1976 г. Лепельскі краязнаўчы музей пачаў удзельнічаць у арганізацыі і правядзенні археалагічных раскопак на тэрыторыі Лепельскага раёна. У музеі захоўваюцца матэрыялы археалагічных раскопак А. Мітрафанава, Л.В. Дучыц, В.П. Ксянзова. Матэрыялы гэтых раскопак ужо занялі сваё месца ў экспазіцыі.

Вясной 1978 г. Лепельскі краязнаўчы музей быў зачынены на рэканструкцыю экспазіцыі і рамонт будынка. Апошняя (сучасная) экспазіцыя была адчынена ў лістападзе 1983 г. Аўтар мастацкага праекту мастак-афармляльнік В. Кандрацьеў. Работы па стварэнні гэтай экспазіцыі праводзіліся пад кіраўніцтвам А. Ханяка і А. Ланікінай.

У 1980-х гг. палепшыўся кадравы склад навуковых супрацоўнікаў павялічылася колькасць музейных прадметаў да 2000. На 1 лютага 1991 г. у музеі налічвалася 11766 прадметаў асноўнага і 5131 навукова-дапаможнага фондаў. Вёўся збор матэрыялаў па ўсіх аспектах гісторыі Лепельшчыны. Навуковыя супрацоўнікі працавалі ў архівах і бібліятэках Полацка, Віцебска і Менска. Рэгулярна ў перыядычным друку з'яўляліся артыкулы супрацоўнікаў музея І. Януша, А. Стэльмах, А. Ланікінай.

На працягу шэрагу гадоў калектыў музея працаваў над кнігай "Памяць. Лепельскі раён", дзе сабраны вялікі дакументальны матэрыял па гісторыі Лепельскага раёна. У 2003 г. выйшаў буклет "Лепельскі раённы краязнаўчы музей". Супрацоўнікі музея ў апошнія дзесяцігоддзі актыўна пачалі займацца навукова-даследчай працай. Працавалі ў бібліятэках і архівах над гісторыяй развіцця адукацыі ў краі, гісторыяй будаўніцтва і развіцця Бярэзінскай воднай сістэмы. Вяліся працы па вывучэнні развіцця гаспадаркі садавода І. К. Мароза, гісторыі партызанскага руху на Лепельшчыне. Надавалася ўвага гісторыі развіцця прамысловасці Лепеля, гісторыі населеных пунктаў (Пышна, Камень, Валосавічы), сабраны матэрыялы аб знакамітых земляках.

У 2001-2003 гг. раскопкі курганных могільнікаў у вёсках Звязда і Валосавічы вёў аспірант НАН Рэспублікі Беларусь В.А. Вайцяховіч. Складзены археалагічны агляд Лепельскага раёна. Рэгулярна навуковыя супрацоўнікі музея адпраўляюцца ў гістарычна-этнаграфічныя экспедыцыі па раёну. У 1995-1996 гг. праведзена ў два этапы гістарычна-краязнаўчая экспедыцыя па Бярэзінскай воднай сістэме.

З пачатку 1990-х гадоў у музеі рэгулярна праходзяць розныя выставы. Адзіная выставачная зала ў горадзе – гэта выставачная зала музея. Тут адзін раз у два гады, рэгулярна, з 1993 года праходзіць вялікая выстава работ "Фарбы Лепельшчыны", праходзяць выставы работ мясцовых мастакоў, калекцыянераў. Праводзіцца штогод выстава работ вучняў дзіцячай школы мастацтваў. Таксама 9 траўня штогод ў гарадскім парку Лепельскі краязнаўчы музей арганізоўвае выставы да Дня Перамогі. У год у музеі праводзіцца 10-12 розных выстаў. У 2003 г. праведзены выставы "Іканапіс XIX– XX стст.", выставы карцін "Люблю мой край", "Прырода Лепельшчыны", "Час выбраў нас" (з гісторыі камсамолу Лепельшчыны) і інш.

У музеі праводзяцца сустрэчы са знакамітымі людзьмі, ветэранамі вайны і працы (напярэдадні 8 сакавіка гэтага года ў музеі прайшла сустрэча з Героем Сацыялістычнай Працы А.В. Мазала), гульні-віктарыны па гісторыі краю ("Ці ведаеце вы гісторыю свайго горада?", "Ваенная гісторыя Лепеля", "Родная прырода"), мерапрыемствы для дзяцей з бацькамі, конкурсы. Распрацавана праграма па музейнай педагогіцы, ужо некалькі гадоў супрацоўнікі музея праводзяць музейна-педагагічныя заняткі. У 2002 г. была распрацавана першая праграма з двух заняткаў: першае "Падарожжа ў прыроду" і другое "У хаце маёй прабабулі". Яшчэ адна праграма складаецца з 7 заняткаў, якія ахопліваюць розныя тэмы, у тым ліку 2 заняткі прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне. Зараз калектыў музея працуе над наступнай праграмай музейна-педагагічных заняткаў.

Музей актыўна супрацоўнічае таксама з мясцовымі краязнаўцамі, шмат увагі супрацоўнікі музея надаюць ахове гістарычна-культурнай спадчыны краю. Паколькі экспазіцыя музея створана 20 гадоў таму, то калектыў музея заняты частковай яе рэканструкцыяй. Папоўнена новымі экспанатамі ў 1998-1999-х гг. экспазіцыя залы Вялікай Айчыннай вайны. У 2000-2003 гг. была зроблена рэканструкцыя залаў гістарычнага мінулага, гісторыі краю ў 20-30-я гг. XX ст.. Штогод музей наведвае каля 7000 чалавек, праводзяцца 100-150 экскурсій за год, чытаецца каля 30 лекцый.

У сярэдзіне 90-х гг. XX ст. пад новы будынак музея быў перададзены былы будынак універмага. Была напісана навуковая канцэпцыя і зроблены мастацкі праект, але на рамонт будынка і афармленне новай экспазіцыі не знайшлося грошай. Музей, як і раней, размешчаны ў будынку XIX ст..

Сучасная экспазіцыя складаецца з 7 залаў: прыроды, гістарычнага мінулага, гісторыі Лепельшчыны 20-30-х гг. XX ст., гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, перамогі, развіцця культуры (1945-1995гг.), выставачнай залы, якая зараз знаходзіцца на месцы залы "пасляваеннага сацыялістычнага будаўніцтва". Плошча экспазіцыі – 237 м², а агульная плошча музея – 406 м².

Улічваючы змены, якія адбыліся ў рэспубліцы, і тое, што з часу стварэння экспазіцыі прайшло 20 год, таксама досвед навуковай і экскурсійнай працы, можна сказаць, што экспазіцыя музея састарэла дзесьці фізічна, дзесьці маральна. З цягам часу змяніліся і падыходы ў адлюстраванні розных пытанняў гістарычнага мінулага. З улікам сучасных патрабаванняў стварэння экспазацыі можна прааналізаваць коратка сучасную экспазіцыю Лепельскага краязнаўчага музея. Яна створана на аснове тэматыка-храналагічнага метаду з выкарыстаннем ансамблевага метаду (у зале гісторыі 20-30-х гг.) і калекцыйнага (зала прыроды).

Матэрыял унутры экспазіцыйных комплексаў згрупаваны па тэмах, не разбіваючы тэматычна агульныя матэрыялы на групы. Пры стварэнні экспазіцыі аўтары імкнуліся да нармальнай загружанасці экспазіцыйнай плошчы, бо празмерная колькасць і згрувадджанне экспанатаў абцяжарвае агляд, хутка стамляюць наведвальніка. Але ў асобных залах, асабліва ў зале "Вялікай Айчыннай вайны" экспазіцыйная плошча перагружана больш чым на 60 %. Акрамя таго невялікая экспазіцыйная плошча гістарычнай залы не дазваляе разглядаць буйныя аб'ёмныя прадметы з усіх бакоў, якія знаходзяцца ў ніжнім экспазіцыйным поясе, у вітрынах. Аднак пры стварэнні экспазіцыі ўлічана, што экспазіцыйным поясам лічыцца плошча, якая пачынаецца з 70-80 мм ад падлогі і вышынёй да 1,7 м (акрамя залы "Гістарычнага мінулага").

Групоўка экспанатаў у залах і ў кожным экспазіцыйным комплексе, вылучэнне вядучых тэм і экспанатаў, дапамагаюць выявіць змест экспазіцыі, яе тэматычную структуру, сэнсавыя цэнтры, вядучыя аб'екты паказу. Паколькі экспанаты, размешчаныя ў цэнтры залаў, першымі прыцягваюць увагу, таму яны першымі павінны выражаць сутнасць экспанаванай тэмы. Так, у зале "Вялікай Айчыннай вайны" ў цэнтры вылучаецца сцяг Лепельскай партызанскай брыгады імя Сталіна, партызанская пушка. У зале "Перамогі" экспазіцыйным цэнтрам з'яўляецца стэла з фотаздымкамі лепельчан – Герояў Савецкага Саюза. У апошняй зале цэнтрам з'яўляецца стэла з фотаздымкамі ганаровых грамадзян Лепеля. Іначай выглядае групоўка экспанатаў ў зале "Гістарычнага мінулага", дзе няма агульнага цэнтра. Тут ужываецца прыём лінейнага размяшчэння экспанатаў. Гэты прыём выкарыстаны адначасова з прыёмам вылучэння цэнтраў унутры храналагічных перыядаў. Амаль у кожнай вітрыне ёсць вядучыя экспанаты, вакол якіх групуюцца астатнія.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Гайцюнішкі

У гісторыі Лідчыны Гайцюнішкі з'яўляюцца ў XVI ст. Згодна інвентара 1565 г. маёнтак належаў Рымшам і складаўся з двара і гаспадарчых пабудоў. У двор уваходзілі тры жылыя дамы, стайні і гароды. Гаспадарчыя пабудовы, агароджаныя дылямі, мелі двое весніц ( варот).



Дом – цвердзь, малюнак Напалеона Орды

У XVII ст. Гайцюнішкі належаць Нонхартам. Нявядома адкуль гэты род паходзіў і як па сапраўднаму гучала прозвішча. Іх лічылі курляндскай шляхтай, таму што іхняе прозвішча выглядала як курляндскае. Два родныя браты, Пётр і Станіслаў Нонхарты, за вялікія заслугі перад краінай у часе вайсковых дзеяняў з Масквой і шведамі, у 1590 г. атрымалі пацвярджэнне свайго шляхецтва, ягое яны мелі раней ад імператара германскай імперыі. Быў таксама падтверджаны іх герб: "Срэбны якар на чырвоным полі".

Пётр Нонхарт жаніўшыся на Падбярэзскай, пратэстанцы, займеў пасаду Віленскага гараднічага, і будаўнічага каралеўскага замка ў Вільні. Як высокакваліфікаваны прафесіянал, быў адпаведна ацэнены і атрымаў Гайцюнішкі. Верагодна, што адзіная дачка Пятра, Зузана, выйшла замуж за Юрыя Храптовіча (1586-1650 г.), ваяводу наваградскага, і перадала яму ў пасаг Гайцюнішкі. Пасля Юрыя, Гайцюнішкі атрымаў у спадчыну яго старэйшы сын Адам Храптовіч, жанаты на Елізавеце Ісайкоўскай.



Дом-цвердзь, фота Яна Булгака, 1914 г.

Не вядома, якім шляхам, пасля Храптовічаў, гэтая маёмасць дасталася Шротэрам (герб – Любіч), шляхце інфляндскага паходжаня, і калі Гайцюнішкі дасталіся Путкамерам. Хутчэй за усё гэта быў пасаг Дароты Шротэр, другой жонкі Ваўжынца Путкамера, стольніка інфляндскага. На пачатку XIX ст., а можа і раней Гайцюнішкі ўжо былі маёмасцю фон дэр Остэн-Сакенаў. Ягоная дачка Вераніка, выйшла замуж у 1830 г. за Адама Рымшу (герб – Гоздава), атрымала маёмасць як свой пасаг. Пасля Веранікі і Адама , усё гэта атрымала ў спадчыну іхняя дачка Алена, жонка Рамуальда Рымшы. Перадапошнім уладальнікам Гайцюнішак быў сын Алены і Рамуальда– Эдвард Рымша (1863-1937 гг.), жанаты на Яніне Лавянецкай. Апошнімі ўладальніцамі маёнтка былі ягоныя две дачкі: Алена (нарадзілася 19.02.1911г., была замужам за Янам Гаштоўт-Ажынскім) і Зоф'я (нарадзілася 23.06. 1913 г., жонка Напалеона Сянкевіча)

**Дом-цвердзь.** Узведзены ў паўднёвай частцы вёскі, на левым беразе р. Жыжма ў 1611-12 гг. з цэглы будаўніком і начальнікам каралеўскіх збудаванняў у Вільні П. Нонхартам разам з інжынерам-фартыфікатарам Ван Данэнам.

Будынак простакутны ў плане, двухпавярховы, пад высокім вальмавым дахам. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны трохпавярховай простакутнай вежай з невысокім, кубічным, арачным уваходам, прыбудаваным пазней. Чатыры вуглавыя вежы круглыя, накрыты шатрамі. Кожная вежа з вузкімі вокнамі – байніцамі, што дазваляла абаронцам з усіх бакоў кантраляваць подступы да дома. На 1-м паверсе знаходзіліся службы і казарма для невялікай залогі, наверсе - "панскія" пакоі і сталовая.

Дом-цвердзь, фота Яна Булгака, 1914 г.

У гадах 1900 – 1905 г. Эдвард Рымша дабудаваў да яго шырокі ганак, з тэрасай, сапсаваўшы такім чынам чысціню і арыгінальнасць першапачатковага праекту.

Эдвард Рымша , пад час дабудовы, знайшоў насценныя малюнкі са сцэнамі палявання, якія аднак не закансерваваў. Ёсць меркаванне, што гэтыя малюнкі належалі пэндзлю вядомага Віленскага мастака і ўладальніка маёнтка Шротара.

У гэтым доме – цвердзі паспяхова вытрымалі аблогу шведы пад час паўночнай вайны, атакаваныя войскамі саксонскага караля Аўгуста II.

У маёнтку былі архіў і бібліятэка, якія загінулі пад час І-й сусветнай вайны. Ацалела толькі "Генеалогія роду Рымшаў", якая сягала часоў хрышчэння Літвы.



Капліца ў Гайцюнішках, здымак Яна Балзункевіча, пачатак 20-га стагоддзя.

Маёнтак акружаў стары парк, плошчай 15 га, раслі ў ім у асноўным ліпы і лістоўніцы, многім з якіх было ўжо больш за 300 год.

У польскай філалогііі з'явілася версія пра тое, што Гайцюнішскі дом-цвердзь стаў правобразам Міцкевічавых Сапліцова і Гарэшкавых. Доўгі час лічалася што праобразам Сапліцова былі Туганавічы, пазнейшыя даследчыкі размяшчалі яго ў Міры ці нават у Вялікапольшчы. Новую цікавую і цалкам праўдападобную гіпотэзу сфармуляваў прафесар Рышард Керсноўскі ў артыкуле "Замак Гарэшкаў і яго жыхары". Ён сабраў шмат фактаў, на карысць слушнасці версіі аб Гайцюнішках.

У 1946 – 49 гг. у доме – цвердзіі знаходзілася школа механізатараў. З 1960 г. – абласная псіхіятрычная бальніца. Быў праведзены капітальны рамонт, у выніку ўнікальны дом – цвердзь добра захаваўся і зараз у ім знаходзіцца адміністратыўны будынак бальніцы. Захаваліся некаторыя гаспадарчыя пабудовы XIX- 1-й паловы XX ст.

**Капліца.** Стаіць у паўднёва-ўсходняй частцы вёскі, каля дарогі. Пабудавана ў 1633 г. з цэглы як кальвінскі збор па фундацыі дачкі ўладальніка Гайцюнішак П. Нонхарта Зузаны. Стала сямейнай пахавальняй Нонхартаў а пазней Шротараў і іншых уладальнікаў Гайцюнішак кальвінскай веры (Статкевічы, а таксама пахаваны Остэн-Сакены).

Простакутны ў плане будынак і такая ж алтарная частка. Асноўны аб'ём быў накрыты чарапічным вальмавым дахам. Сцены прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі, завершаны шырокімі прафіляванымі карнізамі і умацаваны магутнымі контрфорсамі, схілы якіх накрыты чарапіцай. У сутарэннях знаходзіліся труны з муміфікаванымі целамі пахаваных. Высокую каштоўнасць мелі алтар і казальніца XVII ст. Капліца парушана ў часы калі ў доме-цвердзі знаходілася школа механізатараў. Пры гэтым гатычная цэгла выкарыстоўвалася на будаўніцтва гаспадарчых пабудоў.

*Лявон Лаўрэш, г. Ліда.*

## Сакратарыят ТБМ

***нагадвае сябрам Таварыства, што чарговы IX з'езд ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" адбудзецца 30 кастрычніка 2005 года. Сакратарыят просіць паскорыць перадачу пратаколаў вылучэння і анкетаў дэлегатаў з'езду. Сакратарыят просіць старшынь арганізацый і суполак сабраць і здаць сяброўскія складкі за 2005 год да з'езду.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 17. 10. 2005 г. у 11.30. Замова № 1709.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013